ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 5 (2459) 1 лютага 1996 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## Івану ШАМЯКІНУ 75 ГАДОЎ

Іван ШАМЯКІН у сваім рабочым кабінеце.

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 6-й стар.).

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

**Белыя**
**сыпяцца долу крышталікі,**
**Белыя**
**крышацца хмаркі ўгары.**
**Сосны**
**захутаны ў белыя шалікі.**
**Белая**
**мітусь у белым бары.**
**Белая,**
**мяккая ціша няхрусткая,**
**елай**
**дрымотай спавіты кусты.**
**Белае**
**белле.. Зіма беларуская...**

*ВЫСТАВА, ЯКАЯ ДАПАМАГАЕ*

*ГОДНА ПАЧУВАЦЦА МІЖ СУСЕДНІМІ НАРОДАМІ*

# МІХАСЬ РАМАНЮК І НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТРОІ

Выстава мастака-этнографа, прафесара Беларускай акадэміі мастацтваў Міхася Раманюка "Беларускі нацыянальны касцюм", якая адкрылася 12 студзеня ў Нацыянальным мастацкім музеі, стала сапраўдным святам беларускай культуры.

А незвычайнасць выставы абумоўлена неардынарнасцю самой асобы яе арганізатара. Скончыўшы ў 1971 годзе аддзяленне "Мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва" і аспірантуру ў 1974 годзе Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў), Раманюк абараніў кандыдацкую дысертацыю і здабыў ступень кандыдата мастацтвазнаўства. Набываючы навуковыя веды і рыхтуючы дысертацыю, ён адначасова працаваў выкладчыкам гэтай жа акадэміі, а падчас адпачынкаў заўжды ездзіў і ездзіць са студэнтамі ў этнаграфічна-мастацкія экспедыцыі па Беларусі. Як мадэльер, ён адразу ж захапіўся касцюмам, пачаў яго фатаграфаваць і збіраць аўтэнтычныя беларускія касцюмы і творы народнага мастацтва. Адначасова вывучаў і побыт беларусаў розных рэгіёнаў. Гэтыя факты біяграфіі Раманюка раскрываюць шматбаковасць яго асобы: ён і мастак, і навуковец, і прафесар-выкладчык; з 1990 года — загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў. Даследуе народнае мастацтва і матэрыяльную культуру.

Цяпер больш зразумелай будзе незвычайнасць зместу самой выставы і неардынарнасць сцэнарыя яе адкрыцця. Добра ведаючы ўвесь пласт народнай культуры, М. Раманюк імкнуўся, каб прысутныя ўспрынялі духоўную і матэрыяльную культуру беларусаў комплексна. Уявіце гэтую імпрэзу самі...

Пад меладычныя гукі "Магутнага Божа" (яго выконваў камерны хор пад кіраўніцтвам Мацюхова) перад гледачамі павольна адчынілася заслона, і ўсе ўбачылі манументальных памераў карту гісторыка-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, упершыню Раманюком праілюстраваную каляровымі выявамі рэканструяваных ім жа традыцыйных народных строяў беларусаў. Яна глядзіцца, як жывапісная карціна, бо Раманюк падае беларусаў групамі або сем'ямі ў нацыянальных строях.



**НА ЗДЫМКУ: маці М. Раманюка Алеся Харытонаўна (сядзіць) і дачка Алеся (стаіць побач). Абедзве яны быццам сведчанне пераемнасці народных традыцый, неўміручасці народнага мастацтва.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*ГРАМАДСКІ НАВУКОВА-АНАЛІТЫЧНЫ ЦЭНТР*

*"БЕЛАРУСКАЯ ПЕРСПЕКТЫВА":*

*ПЕРШЫЯ КРОКІ ДЗЕЙНАСЦІ*

# ДЗЯРЖАВА І ГРАМАДЗЯНСКАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ

**У КРАІНАХ так званай старой дэмакратыі грамадзянская супольнасць займае ў дзяржаве адметнае месца. У ЗША, напрыклад, існуе каля 23 тысяч няўрадавых арганізацый, якія сочаць за выкананнем законаў, якасцю прадуктаў, паслуг і г.д. Гэта цэлая культура і традыцыі кантролю, каб чыноўнікі і бюракраты не злоўжывалі сваёй уладай. Наогул у тэарэтычным сэнсе грамадзянская супольнасць -- здольнасць насельніцтва самамабілізавацца і самаарганізавацца ў добраахвотныя арганізацыі з мэтай уплыву на ўрад і іншыя ўладныя структуры, каб апошнія вырашалі адпаведныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя пытанні на карысць усяго грамадства. Такой супольнасці ў Беларусі пакуль няма і, здаецца, не хутка будзе. Тым не менш, першыя крокі на шляху яе стварэння ўжо робяцца, аб чым сведчыць значная колькасць няўрадавых арганізацый, якія з'явіліся за апошні час у дзяржаве. Адна з іх -- навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва", што быў утвораны ў верасні мінулага года. Сярод яго заснавальнікаў такія вядомыя ў Беларусі асобы, як Генадзь Бураўкін, паэт і былы прадстаўнік Беларусі ў ААН, Радзім Гарэцкі, віцэ-прэзідэнт АНБ, Станіслаў Астапчык, дырэктар Фізіка-тэхнічнага інстытута АНБ, Анатоль Грыцкевіч, загадчык кафедры Універсітэта культуры, Іван Кірычэнка, старшыня Беларускага камітэта міру, Павел Данейка, віцэ-прэзідэнт Інстытута прыватызацыі і менеджмента і дэпутат цяперашняга ВС, Аляксандр Фядута, журналіст, былы спіч-мейкер Прэзідэнта, Уладзімір Тарасаў, кіраўнік дарадчыкаў Нацбанка Беларусі, і шмат іншых. Аб мэтах стварэння арганізацыі і яе дзейнасці і вядзе наш карэспандэнт гутарку з сустаршынёй цэнтра "Беларуская перспектыва" Валянцінам ГОЛУБЕВЫМ.**

*-- Валянцін Фёдаравіч, у склад вашай арганізацыі ўваходзіць шмат аўтарытэтных дзеячаў навукі і культуры, якія не заўсёды прытрымліваліся аднолькавых поглядаў на праблемы адраджэння Беларусі. Як удалося іх аб'яднаць?*

-- Калі вы маеце на ўвазе палітычныя погляды, дык першае, што я хацеў бы падкрэсліць: наша арганізацыя не палітычная і чыста палітычнымі пытаннямі мы займацца не збіраемся. Іншая справа, што маруднасць эканамічных рэформ, пагаршэнне ўзроўню жыцця беларускіх грамадзян вымагаюць ад творчай і навуковай інтэлігенцыі, патэнцыял якой не быў запатрабаваны або выкарыстаны не ў поўнай меры, шукаць новыя формы і падыходы, каб вывесці нашу краіну з цяперашняга крызісу. Карацей кажучы, "Беларуская перспектыва" -- гэта аб'яднанне грамадзян для сумеснай рэалізацыі эканамічных, сацыяльных і культурных ініцыятыў і пабудовы дэмакратычнай цывілізаванай дзяржавы Беларусь з мэтай далейшай яе інтэграцыі ў Еўрапейскую супольнасць. Зыходзячы з гэтага, асноўнымі прыярытэтнымі крытэрыямі для аб'яднання ўсіх сяброў цэнтра з'яўляюцца разуменне імі неабходнасці існавання Беларусі як незалежнай дзяржавы, прызнанне дэмакратычных каштоўнасцей і развіцця дзяржавы шляхам рынкавых пераўтварэнняў. Ну а калі ёсць агульная мэта, на падставе агульных падыходаў і каштоўнасцей разумныя людзі заўсёды дамовяцца і прыйдуць да згоды.

*-- Аналізуючы памылкі мінулага, можна зрабіць выснову, што на шляху да цывілізаванага грамадства нашы дэмакраты-інтэлігенты далёка зайшлі наперад і адарваліся ад свайго народа.*

-- З гэтым можна пагадзіцца. Менавіта таму наша арганізацыя ставіць на мэце выяўленне і ажыццяўленне ініцыятыў, якія ідуць знізу на асабістым і арганізацыйным узроўні. Мы будзем шукаць ініцыятыўных людзей з пэўнымі праектамі і разам працаваць над іх рэалізацыяй. Сітуацыя ў краіне паміж майскімі выбарамі ў Вярхоўны Савет і выбарамі ў снежні значна змянілася. За тое, што заводы так і не запусцілі, а жыццёвы ўзровень усё пагаршаецца, цяпер ужо цяжка вінаваціць дэмакратаў. Сёння мы павінны акрэсліць паняцці каштоўнасцей дэмакратыі і цывілізаванага грамадства, патлумачыць гэта людзям. Трэба прыцягнуць іх да дыялога, дэбатаў, бо праблемы можна вывучаць толькі разам. Няхай яны не пагаджаюцца з нечым, але для гэтага ў іх павінны быць аргументы. Пошукі аргументаў прымушаюць задумацца. Нарэшце яны навучацца адрозніваць, што ёсць папулісцкія абяцанкі, а што сапраўды можа выратаваць нашу дзяржаву ад беднасці, карупцыі і злоўжывання ўладай. Тое, што абраны і пачынае працу парламент, сведчыць аб разуменні беларусамі неабходнасці існавання ўсіх трох галін улады.

*-- У посттаталітарных краінах грамадства звычайна вельмі пасіўнае, у ім яшчэ пануе страх. Чым далей ад сталіцы, тым выразней гэта з'ява. Як вы бачыце вырашэнне праблемы?*

-- "Беларуская перспектыва" ёсць рэспубліканская арганізацыя. Мы ўжо маем свае структуры ва ўсіх абласных гарадах, за выключэннем Віцебска. Мы вельмі малады цэнтр, і пак[illegible]творана, так бы мовіць, аснова, якая па[illegible]а пашырацца.

Далей мы плануем ахапіць невялічкія гарады і сельскую мясцовасць. Адна з праграм, над якой мы працуем цяпер, тычыцца сродкаў масавай інфармацыі. Яна якраз будзе ажыццяўляцца на мясцовым узроўні: як стварыць мя[illegible]ую незалежную газету, радыёстанцыю, [illegible]знайсці пад гэта сродкі і г.д. Ну а калі будзе створана сетка незалежных газет -- гэта найлепшы сродак распаўсюджвання ведаў і адукацыі насельніцтва.

*-- Валянцін Фёдаравіч, за зусім кароткі тэрмін ваш малады, як кажаце, цэнтр наладзіў ужо дзве прадстаўнічыя міжнародныя канферэнцыі. Хто вам у гэтым дапамог?*

-- У нас было дзве прапановы -- распрацаваць пытанні па інвестыцыях і сельскай гаспадарцы. Мы гэта зрабілі, склалі праграмы і накіравалі іх у Фонд Сораса. Дзякуючы іх шчодрай падтрымцы, мы і правялі 23--24 лістапада мінулага года канферэнцыю "Прыцягненне замежных інвестыцый у постсацыялістычныя краіны" і 14--15 снежня -- "Праблемы рынкавых рэформаў сельскай гаспадаркі ў краінах Усходняй Еўропы". (Гэта, дарэчы, схема, як мы шукаем сродкі). У канферэнцыях бралі ўдзел прадстаўнікі краін Балтыі, Польшчы, Германіі, Чэхіі, Расіі, Малдовы, Украіны. На маю думку, другая канферэнцыя атрымалася больш цікавай. Аграрны сектар -- адно з самых балючых пытанняў, а сур'ёзных мерапрыемстваў па тэматыцы, як ні дзіўна, амаль не праводзілася. Удзельнікі канферэнцыі былі вельмі задаволены магчымасцю паслухаць адзін аднаго, а таксама даведацца, якія памылкі ці поспехі зрабілі іх калегі з замежжа за апошні час, вырашыць для сябе, што з іх вопыту можна выкарыстаць у Беларусі. Больш таго, гэта толькі першы крок у распрацоўцы аграрных праблем нашай арганізацыяй. Мы марым правесці шэраг канферэнцый на месцах: у раённых гарадах ці нават у калгасах. Нарэшце, у нас ёсць ужо пэўныя дамоўленасці з замежнымі партнёрамі, каб вывезці групу работнікаў сельскай гаспадаркі ў Чэхію ці Германію. Адна справа нешта пачуць, але зусім іншая -- пабачыць на ўласныя вочы, як пераадольваюць падобныя цяжкасці калегі ў іншых краінах, вывучыць іх вопыт і нешта ўзяць з іх узору. Наогул, не трэба нічога прыдумваць, трэба вучыцца прыстасоўваць вопыт замежжа да нашых умоў.

*-- Ну а як вы збіраецеся працаваць з урадам?*

-- На канферэнцыі былі запрошаны і прысутнічалі прадстаўнікі ўлады. Усе прапановы і распрацоўкі канферэнцыі зараз у друку і будуць выдадзены асобнымі зборнікамі і перададзены ва ўрад і пэўныя ўстановы. Магчыма, выйдзем нават з прапановамі ўнесці пэўныя змены ў аграрнае заканадаўства. Раней было як: Савет Міністраў распрацоўвае, а Вярхоўны Савет законапраект зацвярджае, а сувязі з грамадскасцю, з практыкамі не было. Калі нашы прапановы будуць істотнымі і карыснымі і выклічуць зацікаўленасць і станоўчыя водгукі спецыялістаў, урад будзе вымушаны іх улічыць. Наогул, я бачу на будучыню, што мы можам працаваць разам.

*-- Каб працаваць разам і ўплываць на ўрад, трэба добра ведаць яго структуру, хібы і прыярытэты. Ці плануецца вывучэнне сістэмы дзяржаўнага ўладкавання?*

-- Мы дагэтуль не ставілі задачы яе вывучаць, але, магчыма, гэта карысна. У нас кожная ўлада існуе як быццам сама па сабе, асобна, не ўзаемадзейнічаючы, а змагаючыся паміж сабой. Больш таго, выканаўчая галіна ўлады спрабуе падпарадкаваць сабе і заканадаўчую, і судовую і поўнасцю кіраваць усёй уладнай структурай на мясцовым узроўні. Мне, як гісторыку, сённяшняе кіраванне нагадвае ў нейкім сэнсе структуру ўлады, якая існавала на Беларусі да XIV стагоддзя, калі на чале дзяржавы стаяў вялікі князь (гаспадар), а яму ўсе падпарадкоўваліся. Але з цягам часу з'явілася княж[illegible]ая рада, якая потым абмежавала яго [illegible]зы. Нарэшце быў створаны выбарчы орган -- Сойм і ў XV--XVI стагоддзях арганізацыя самакіравання ў Вялікім Княстве Літоўскім для таго часу была вельмі дэмакратычнай. Сапраўды было б вельмі цікава і істотна арганізаваць канферэнцыю ці "круглыя сталы" і вывучыць вопы[illegible]дзяржаўнага ўладкавання з улікам [illegible]гарычнага і міжнароднага вопыту.

*-- І тады з улікам таго ж гістарычнага вопыту праз 150--200 гадоў мы нарэшце пабудуем дэмакратычную дзяржаву?*

-- Мяркую, усё ж трошкі раней. Сёння мы не адзіная арганізацыя, якая разумее прыярытэты дэмакратычнага грамадства. На жаль, амаль да сённяшняга дня шмат што вызначалася і вызначаецца ўласнымі амбіцыямі палітычных лідэраў і арганізацый, што ніяк не спрые ажыццяўленню праблемы пабудовы дэмакратычнага грамадства. Але калі ў маі дэмакраты пацярпелі паразу, яны перагледзелі свае погляды і, здаецца, зразумелі, што, як гаворыцца ў вядомай беларускай прымаўцы, "разам лягчэй і бацьку біць". Мы збіраемся супрацоўнічаць з усімі арганізацыямі, якія працуюць на карысць Беларусі. Мы не імкнемся ствараць альтэрнатыву каму-небудзь, а толькі займацца пэўнай справай. Чым больш арганізацый і людзей будуць задзейнічаны ў працэс стварэння супольнасці, тым лепш для Беларусі. Мы наладжваем таксама кантакты з блізкім і далёкім замежжам, бо вельмі важна ўлічваць і міжнародны вопыт. Але самае вялікае спадзяванне ў стварэнні грамадзянскай супольнасці ў Беларусі на нашу моладзь. Я вельмі часта згадваю адзін эпізод, які адбыўся падчас наведвання прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам Курапатаў. Напрыканцы сустрэчы беларускія дзеці заспявалі гімн "Магутны Божа". Спадар Клінтан накіраваўся было пайсці, але раптам вярнуўся і сказаў, што хацеў бы звярнуцца да дзяцей з невялічкай прамовай. І сказаў прыблізна наступнае: "Дзеці! Вы жывяце ў незалежнай дзяржаве і будуеце дэмакратыю. Мне вельмі хацелася б, каб вы ўяўлялі, што свабоднаму чалавеку ў свабоднай краіне падуладна ўсё. Помніце і працуйце на незалежнасць сваёй дзяржавы і пабудову дэмакратыі, і вы будзеце гаспадарамі шчаслівай краіны". Вось такім чынам прэзідэнт заможнай дэмакратычнай дзяржавы жадаў Беларусі, каб яна пайшла шляхам дэмакратыі і дасягнула такога ж высокага ўзроўню ва ўсіх сферах, як і ЗША. І я веру: калі мы будзем працаваць, шмат працаваць, людзі зразумеюць каштоўнасці і чалавечай асобы, і дэмакратыі, і незалежнасці, а ўсе разам мы пабудуем цывілізаванае грамадства і далучымся да Еўрапейскага супольніцтва не праз стагоддзе і не праз два, а значна хутчэй.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ**

## У НАШАЙ БЕДНАЙ ДЗЯРЖАВЕ ЯНЫ НЕ САМЫЯ БЕДНЫЯ

На Беларусі два вучылішчы мастацкага профілю -- Мірскае на Гродзеншчыне і ў горадзе Бабруйску, якое атрымала статус вышэйшага.

У Мірскім мастацкім вучылішчы рэстаўрацыйных работ па сямі прафесіях займаюцца больш за 500 навучэнцаў. Перш за ўсё тут вучаць бачыць прыгажосць, прыкмячаць яе ў паўсядзённым жыцці, таму сярод дысцыплін -- асновы архітэктуры, гісторыі мастацтва...

У майстэрнях вучылішча, дзе рукамі юнакоў і дзяўчат ствараюцца дзівосныя разнастайныя мастацкія рэчы, гучаць лагодныя песні, сучасная музыка. А інакш і нельга, бо музыка абуджае фантазію чалавека, дапамагае тварыць...

Асноўны матэрыял для вырабу сувеніраў прыродны. Бо прырода жывіць фантазію, у ёй выхаванцы знаходзяць крыніцу натхнення.

Здавалася б, прэстыжная навучальная ўстанова, але і тут не абыходзіцца без праблем.

Выпускнікі Мірскага вучылішча працуюць у аб'яднанні "Мінскрэстаўрацыя", на мэблевых фабрыках рэспублікі, на Слонімскай фабрыцы мастацкіх вырабаў, у камерцыйных структурах. Ахвотна бяруць моладзь на працу, асабліва cталяроў і мастакоў-афарміцеляў. Больш складанае становішча з рэстаўратарамі (хоць у рэспубліцы ёсць што рэстаўрыраваць). Непадалёку на рэстаўрацыі Мірскі замак -- помнік архітэктуры XY--XYI стагоддзяў...

На пытанне, якія цяжкасці эканамічнага характару не дазваляюць у поўнай меры разгарнуць вытворчасць, намеснік дырэктара Мірскага вучылішча А.Асташка адказаў: "Галоўныя цяжкасці адчуваем з набыццём інструментаў і матэрыялаў. Лакафарбу, напрыклад, нам завозілі з Падольска, дзе яе выпускаюць. Сёння даводзіцца шукаць іншыя крыніцы, а сродкі зарабляем самі. У перыяд вытворчай практыкі нашы навучэнцы працуюць на штатных пасадах і атрымліваюць для сваіх патрэб 75 працэнтаў заробку, а 25 накіроўваецца ў фонд вучылішча на набыццё тых жа інструментаў і матэрыялаў. Сябруем з Негарэльскім лясгасам і Мірскім лясніцтвам, дапамагаем ім на гаспадарчых работах, а яны нам даюць за гэта драўніну. Мораны дуб здабываем на працягу двух гадоў уласнымі сіламі. Працуем па заказах. У ліку нашых кліентаў Белдзяржуніверсітэт, дзе навучэнцы рабілі роспіс, афармлялі і Карэліцкі краязнаўчы музей..."

У будучыні тут плануюць стварыць на базе існуючага вышэйшае прафесійна-тэхнічнае вучылішча, дзе частка навучэнцаў змагла б атрымаць сярэдне-спецыяльную адукацыю.

Навучэнцы вучылішча прадстаўляюць свае работы на традыцыйныя раённыя, абласныя і рэспубліканскія выставы, кірмашы.

На рэспубліканскай выставе, прысвечанай 50-годдзю Вялікай Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, вучылішча заняло прызавое месца і ўзнагароджана музычным цэнтрам, а лепшыя вырабы адзначаны падзякамі.

**Пётр ЖЭБРАК.**

З ГІСТОРЫІ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ

# СКАЛЬПЕЛЬ І ВІНТОЎКА

Да кастрычніка 1942 года эвакуацыя раненых праводзілася праз так званыя "Суражскія вароты", наяўнасць якіх адыграла вялікую ролю ў развіцці партызанскага руху. Гэта быў не заняты праціўнікам участак даўжынёй 50--60 кіламетраў з поўначы на поўдзень ва ўсходняй частцы Віцебскай вобласці.

Раненыя з усіх атрадаў накіроўваліся ў партызанскі шпіталь вёскі Пудоць Суражскага раёна (цяпер Лёзненскі раён) Віцебскай вобласці. Гэта быў першы партызанскі шпіталь у гады Вялікай Айчыннай вайны. Шпіталь на 50--60 ложкаў размяшчаўся ў былой участковай бальніцы. Працавалі ў ім 3 вопытныя ўрачы, вялікая колькасць сярэдняга медыцынскага персаналу. Начальнікам гэтага шпіталя быў урач Сяргей Штэмпель. Адсюль раненыя накіроўваліся ў медыка-санітарныя ўстановы 4-й ударнай арміі Калінінскага фронту. У канцы верасня 1942 года немцы занялі дарогу Усвяты—Сураж, і лінія фронту самкнулася. З гэтага часу эвакуацыя раненых і хворых партызан у савецкі тыл праводзілася толькі самалётамі.

Буйны міжбрыгадны шпіталь быў арганізаваны ў вёсцы Мілавіды Расонскага раёна. Ён прызначаўся для лячэння партызан, якія дзейнічалі ў Дрысенскім, часткова Расонскім і Асвейскім раёнах, і для мясцовага насельніцтва. У асобных дамах размяшчаліся эвакапрыёмны пункт, перавязачная, аперацыйная, хірургічнае, тэрапеўтычнае і інфекцыйнае аддзяленні. У выпадку налёту варожай авіяцыі была распрацавана сістэма эвакуацыі раненых і хворых у бяспечныя месцы. На выпадак манеўраных баёў і дзеяннняў партызан у складанай прыфрантавой паласе былі пабудаваны так званыя тайнікі, дзе можна было размясціць некалькі раненых партызан. Акрамя таго, у зоне дзейнасці кожнага атрада будаваліся зямлянкі на 10--12 чалавек.

У зімовых лагерах, як правіла, адводзілася спецыяльная месца медсанчасці. Так, у атрадзе імя М.Калініна 2-й Дрысенскай брыгады медсанчасць складалася з зямлянак для медыцынскага персаналу, прыёму хворых і раненых, шпіталізацыі 20--30 чалавек. Стваўся запас прадуктаў харчавання, вады, медыкаментаў, перавязачнага матэрыялу. Акрамя такіх медчасцей, у кожным атрадзе былі пабудаваны па 2--3 зямлянкі для ўкрыцця раненых і хворых на выпадак карных экспедыцый. Зямлянкі будаваліся ў найбольш бяспечных месцах, старанна маскіраваліся, мелі скрытыя ўваходы і выхады. Вялікую ролю яны адыгралі ў перыяд з восені 1943 да 12 ліпеня 1944 года, калі брыгада дзейнічала ў прыфрантавым раёне.

Асаблівыя цяжкасці ў медыцынскім абслугоўванні партызан былі ў час рэйдаў у глыбокі тыл праціўніка. Прывяду такі прыклад. Беластоцкае партызанскае злучэнне, створанае ў Капыльскім раёне Мінскай вобласці ў канцы жніўня 1943 года на базе атрадаў і груп, выдзеленых партызанскім злучэннем Слуцкай зоны, у саставе 744 чалавек 3 верасня пачало рэйд. Прыйшлося пераходзіць чыгунку Баранавічы -- Лунінец, Баранавічы -- Брэст, Баранавічы -- Ваўкавыск, Ваўкавыск -- Ліда і тры разы пераадольваць водныя перашкоды -- рэкі Шчара і Нёман. За перыяд з 3 верасня па 19 лістапада 1943 года партызаны правялі рэйд з Капыльскага раёна ў раён гродзенскіх лясоў і вярнуліся ў Ліпічанскую пушчу, прайшоўшы 976 кіламетраў. К гэтаму часу атрад вырас да 4 тысяч чалавек.

У першыя ж дні рэйду з'явіліся раненыя. Іх неслі на насілках, везлі на павозках.

Раку Шчару фарсіравалі ўброд. Раненых размяшчалі на драўляных шчытах, пакладзеных на павозкі. Пры фарсіраванні Нёмана ў лістападзе 1944 года ляжачых раненых перапраўлялі ў лодках, сядзячых -- верхам на кані ўплаў.

У раёне Рускай пушчы быў арганізаваны шпіталь спачатку ў шалашах, а потым -- у зямлянках. Было пакінута 18 цяжкапараненых з медыцынскім персаналам, узводам аховы і прадуктамі харчавання.

19 лістапада фарсіравалі раку Нёман і к канцу дня ўступілі ў Ліпічанскую пушчу. Тут быў арганізаваны шпіталь злучэння. 18 чалавек, пакінутыя ў шпіталі ў Рускай пушчы, праз 4--6 тыдняў папраавіліся і былі адпраўлены ў злучэнне.

Паступова пераадольваліся цяжкасці, якія перажывалі народныя мсціўцы і насельніцтва ў сувязі з недахопам кадраў. Калі ў 1941 годзе ў атрадах было ўсяго 6 урачоў, то ў канцы 1942 года медыцынскую службу ў атрадах забяспечвалі 166, у канцы 1943 года -- 538, на час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі -- 570 урачоў. Паводле звестак санітарнага аддзела БШПР, сярод урачоў-партызан было 33,5 працэнта агульнага профілю, 30,4 працэнта хірургаў, 24,6 працэнта тэрапеўтаў. У шпіталях праводзілася перакваліфікацыя ўрачоў іншых профіляў на хірургаў і тэрапеўтаў, патрэба ў якіх была больш вострай.

Сярод урачоў было нямала кваліфікаваных хірургаў, і раненым часта аказвалася складаная хірургічная дапамога. У брыгадзе імя М. Фрунзе Вілейскай вобласці з лютага па снежань 1943 года зрабілі звыш 200 аперацый. За гэты час праз шпіталь прайшло больш 2 тысяч хворых і раненых партызан, многа цывільнага насельніцтва. Дзесяткі і сотні раненых і хворых выратавалі ўрачы І. Друян, Н. Жукоўская, І. Кардаш, М. Кніга, В. Лапцейка, С. Штэмпель і многія іншыя.

Самааддана працаваў і сярэдні медыцынс[illegible]ерсанал -- фельчары і сёстры. Коль[illegible]цяжкасцей давялося ім вытрымаць за гады мінулай вайны! У большасці гэта былі маладыя дзяўчаты. Шмат зрабілі яны, каб вярнуць да жыцця тысячы параненых у баях народных мсціўцаў, сваёй нястомнай і добрасумленн[illegible]рацай наблізіць Дзень Перамогі. Вось [illegible]лькі адзін прыклад. 20-гадовы фельчар атрада імя газеты "Правда" Мінскай вобласці Аляксандр Корань за кароткі час вярнуў у строй 37 байцоў, з іх 8 цяжкапараненых, аказаў медыцынскую дапамогу 150 партызанам. Гэта было ў 1943 годзе.

Вернымі памочнікамі ўрачоў былі медыцынскія сёстры. У атрады іх накіроўваў санітарны аддзел Беларускага штаба партызанскага руху. Рыхтавалі медсясцёр таксама ў партызанскіх атрадах і брыгадах. Вялася падрыхтоўка сярэдняга і малодшага медыцынскага персаналу сярод насельніцтва. Так, у брыгадзе "Смерць фашызму" Мінскай вобласці падрыхтавалі 11 санінструктараў, у 101-й імя Аляксандра Неўскага -- 19, у 61-й імя В. Чкалава -- 30, у атрадзе імя А. Суворава брыгады "Разгром" -- 10.

Медсёстры разам з партызанамі хадзілі ў засады, удзельнічалі ў налётах на варожыя гарнізоны, мініравалі шашу і чыгунку. Акрамя таго, дні і ночы дзяжурылі каля ложкаў цяжкапараненых і хворых. Асабліва цяжка было медсёстрам у час карных экспедыцый. Тады не заўсёды ўдавалася браць з сабой хворых і раненых. Іншы раз прыходзілася пакідаць іх у тайніках, лясных зямлянках. Але разам з раненымі заставаліся медсёстры. Яны рабілі ўсё, каб выратаваць раненых.

Былы начальнік штаба 2-й Дрысенскай партызанскай брыгады А. Касач успамінаў: "Раненых і хворых даводзілася ўкрываць і лячыць у тайніках і зямлянках. Былі выпадкі, калі фашысты густым ланцугом прачэсвалі лес, праходзілі па месцах размяшчэння тайнікоў і зямлянак. Зацікаў бой, медыцынскія сёстры выходзілі з укрыцця і рабілі абходы сваіх хворых і раненых. Успамінаецца выпадак, калі ў час карнай экспедыцыі нямецкія войскі занялі вышыню паміж вёскамі Казакова і Ваўкі і спыніліся там на некалькі дзён. А на схіле гэтай вышыні знаходзіўся наш шпіталь-тайнік, у якім было 14 раненых і хворых партызан. Чатырнаццаць дзён і начэй медыцынская сястра Юзэфа Лысенка вяла барацьбу за жыццё партызан, якія знаходзіліся ў гэтым шпіталі. У ім было душна, сыра і холадна. Не хапала паветра, падыходзілі к канцу запасы прадуктаў і вады. Наверсе чуліся размовы нямецкіх салдат. Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што ў зямлянцы было некалькі цяжкапараненых і хворых, якія, трызнячы, стагналі і крычалі. Нягледзячы ні на што, ішла барацьба за іх жыццё. Усё было гатова для адпору. Сама зямлянка і падыходы да яе былі замініраваны. У выпадку безвыходнага становішча ў руках медсястры быў напагатове шнур". Але на гэты раз усё абышлося, шнур не спатрэбіўся.

Складанай праблемай па-ранейшаму было набыццё медыкаментаў і інструментаў. У 1941--1942 гадах дапамогу ў гэтым аказвалі падпольшчыкі, асабліва ўрачы і фармацэўты, якія здабывалі іх у лячэбных установах акупантаў і перадавалі партызанам праз сувязных. Партызанскія аптэкі папаўняліся і ў час разгрому варожых гарнізонаў. Насельніцтва таксама перадавала партызанам медыкаменты, захаваныя з мірнага часу, сабраныя ў перыяд адступлення нашых войск. Так, ляснік І. Легеза захаваў і перадаў партызанскаму атраду "Перамога" Баранавіцкай вобласці 4 скрынкі медмаёмасці, у тым ліку лякарствы і два наборы хірургічных інструментаў. Шырока выкарыстоўваўся вопыт народнай медыцыны. Дзякуючы дапамозе мясцовага насельніцтва, партызанскія медыкі мелі магчымасць прымяняць пры лячэнні раненых і хворых партызан лекавыя расліны. Мясцовыя знахары вадзілі медыкаў у запаведныя месцы, паказвалі гаючыя травы, плады, карані і вучылі, як вырабіць з іх лякарствы, як іх прымяняць.

Становішча знач[illegible] палепшылася, калі БШПР арганізаваў [illegible]таўку партызанам медыкаментаў, інс[illegible]рументаў і перавязачных матэрыялаў на самалётах.

Паводле даных на чэрвень 1943 года, з Вялікай зямлі на акупіраваную тэрыторыю Беларусі было накіравана больш за 5 тысяч аптэч[illegible] каля 50 тысяч індывідуальных па[illegible]ў і бінтоў, каля 2 тысяч пачак марлевых сурвэтак, звыш 1 500 метраў белай марлі, каля 300 кілаграмаў сульфідзіну, 15 кілаграмаў стрэптацыду, каля 1 700 грамаў хініну. Акрамя таго, накіравалі хірургічныя і перавязачныя наборы, эфір для наркозу, хлараформ, навакаін, болесуцішальныя, наркатычныя, антысептычныя і іншыя сродкі. За 1943 год было адпраўлена партызанам каля 2 600 кілаграмаў медыцынскіх грузаў, а з восені 1943 года да 20 чэрвеня 1944 года партызанам перапраўлена больш за 44 тоны медыцынскіх грузаў. У 1943--1944 гадах большасць партызан была забяспечана індывідуальнымі перавязачнымі пакетамі. У 1943 годзе санітарны аддзел БШПР выдаваў усім, хто накіроўваўся ў тыл ворага, індывідуальныя пакеты. З кастрычніка 1943 да лютага 1944 года санітарны аддзел БШПР перапраўіў у партызанскія фарміраванні 181 тысячу сыпнатыфознай вакцыны, што дазволіла зрабіць прышчэпкі партызанам Брэсцкага, Мінскага, Пінскага партызанскіх злучэнняў і большасці брыгад Віцебскай вобласці. За 1943--1944 гады партызанам дастаўлена 195 літраў розных вакцын.

Дапамагала шпіталям і насельніцтва партызанскіх зон. Яно шэфствавала над імі, выконвала розныя гаспадарчыя работы: нарыхтоўвала дровы, мыла бялізну і перавязачныя матэрыялы, выпякала хлеб і г.д. Сяляне прапаноўвалі раненым партызанам свае дамы. Жыхары вёсак Арэхава і Заазер'е шэфствавалі над шпіталем 2-й Ушацкай брыгады імя П.Панамарэнкі, выконвалі гаспадарчыя работы. Жыхары цывільных лагераў даглядалі раненых і хворых партызан, удзельнічалі ў зборы лекавых раслін. Урач 600-га партызанскага атрада Магілёўскай вобласці А.Макараў успамінаў: "Будучы заўсёды звязанымі з цывільным насельніцтвам партызанскіх зон, мы наглядалі, з якой любоўю і сардэчнай цеплынёй адносілася да нашых партызан насельніцтва. Яно ў лясах і балотах збірала для іх ягады, дзяліласся мёдам, яйкамі, прыносіла ручнікі, бялізну і інш." Дзякуючы дапамозе насельніцтва, раненыя і хворыя партызаны атрымлівалі дадаткова да пайка яйкі, масла, сыр, мёд, малако, смятану, летам — фрукты і гародніну.

Мелі месца выпадкі, калі ўся вёска ператваралася ў партызанскі шпіталь, калі ўсе жыхары ўдзельнічалі ў доглядзе, абслугоўванні, лячэнні раненых і хворых партызан. Так, на працягу двух месяцаў (з сярэдзіны лютага да сярэдзіны красавіка 1944 года) у вёсцы Рог Старадарожскага раёна размяшчаўся шпіталь 125-га атрада 130-й Петрыкаўскай брыгады Палескай вобласці. Каля 140 хворых на сыпны тыф партызан прайшло лячэнне ў шпіталі ў вёсцы Рог. Дзякуючы ўсямернай дапамозе насельніцтва, карпатліваму дагляду, усе хворыя вярнуліся ў строй.

Дапамога раненым партызанам з боку насельніцтва Беларусі ажыццяўлялася на працягу ўсяго перыяду барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Народных мсціўцаў савецкія патрыёты часам лячылі ў сябе дома, хавалі ад гітлераўскіх забойцаў. У некаторых сельскіх дамах знаходзілася па некалькі раненых партызан.

Медработнікі абслугоўвалі таксама і жыхароў вызваленых ад ворага зон. Паводле даных санітарнага аддзела БШПР, 15--20 працэнтаў амбулаторных наведванняў прыпадала на цывільнае насельніцтва. У многіх зонах ствараліся спецыяльныя амбулаторыі для цывільных асоб. Яны былі ў Лепельскім і Ветрынскім раёнах Віцебскай вобласці, у Антопальскім раёне Брэсцкай вобласці, у зоне дзеяння брыгады "Жалязняк" Мінскай вобласці. Медыцынскія работнікі Ельскага партызанскага атрада Палескай вобласці аказвалі медддапамогу насельніцтву 8 сельскіх саветаў з 12, якія былі ў раёне. У месцы размяшчэння атрадаў жыхары прыводзілі хворых, якія атрымлівалі кваліфікаваную дапамогу. Урач і фельчары пастаянна выязджалі ў населеныя пункты для аказання дапамогі хворым.

У ліпені-жніўні 1943 года ўрачы злучэння Брэсцкай вобласці прынялі, па няпоўным даных, 2 100 хворых -- мясцовых жыхароў, зрабілі 3 хірургічныя аперацыі, ліквідавалі эпідэмію сыпнога тыфу і дыфтэрыі. Наладзіла медабслугоўванне ў вёсках брыгада "Народныя мсціўцы" Мінскай вобласці, дзе кожны ўрач меў свой участак.

Паводле звестак БШПР, з 15 тысяч параненых партызанскія медыкі вярнулі ў строй 78,4 працэнта, эвакуіравалі ў савецкі тыл 15,8 працэнта (інвалідамі сталі 2,4 працэнта, памерлі 3,4 працэнта). Аказваючы медыцынскую дапамогу партызанам і насельніцтву, яны заставаліся байцамі, са зброяй у руках удзельнічалі ў баявых аперацыях. Узорам самаадданага служэння Радзіме, вернасці абавязку з'яўляліся ўрачы М.Варановіч, А.Вараб'ёў, М.Герасіменка, І.Друян, Н.Жукоўская, І.Кардаш, М.Кніга, І.Крук, Н.Лагуцін, В.Лапцейка, М.Паўлавец, А.Шуба і інш.

У барацьбе з акупантамі загінулі каля 350 медыкаў-партызан Беларусі. Сярод іх урачы А.Чарнецкі, З.Лісоўская, В.Кузняцоў, Н.Фадзеева, Д.Мазрук; медыцынскія сёстры О.Цмыгун, Г.Магілеўчык і многія іншыя.

За мужнасць і гераізм шмат медыцынскіх работнікаў адзначаны баявымі ўзнагародамі.

Медыцынская сястра партызанскай брыгады імя С.Кірава Мінскай вобласці А.Шаўчэнка вынесла з поля бою 139 партызан. Яна ўдастоена ордэна Леніна і вышэйшай узнагароды Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа Флорэнс Найцінгейл.

Медыцынскае абслугоўванне раненых і хворых партызан было адным з важных фактараў поспеху ўсенароднай барацьбы ў тыле ворага. Менавіта ўсведамленне таго, што раненыя ці хворы партызан атрымае медыцынскую дапамогу, што ён зноў зможа стаць у строй, усяляла сілу і ўпэўненасць, умацоўвала стойкасць у барацьбе ўсіх партызан. Клопат аб раненых і хворых быў законам, які свята выконваўся ўсімі партызанамі.

Мікалай БАНДАРЭНКА.

Заканчэнне. Пачатак у № 4.




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

Праз гадзіну дарогі напрасткі мы выйшлі на добра ўтаптаную лясную сьцежку. Тут Кручок затрымаў усіх і падышоў да салдата. Паказаў на сьцежку:

-- За тое, што страляў без папярэджваньня, табе варта было б пальнуць у лоб, але не хачу пэцкаць рукі ў кроў... Ідзі хутка назад. Скажаш, што на цябе напала 100 бандытаў і 10 тыграў. Атрымаеш ордэн за гераізм. Ну, "пошел"!

Чырвонаармеец хутка пакрочыў сьцежкай, якая вяла ў глыбіню лесу, і неўзабаве зьнік у змроку між дрэвамі. А мы рушылі далей.

"Не шанцуе нам! -- думаў я. -- Сюды ішлі, нам заступілі дарогу! Назад ідзём -- тое самае!"

"Фігуркі" стаміліся і праз кожныя пару кіламетраў прасіліся адпачыць. Кручок, зірнуўшы на гадзіньнік, прамовіў:

-- Занадта часта адпачываеце, гэта надакучае. Зараз даю вам больш перапынак, а потым на адным уздыху пойдзем да граніцы... Нельга губляць час... Зараз другая гадзіна... Калі нас пагоняць на граніцы, спатрэбіцца час, каб перакінуцца ў іншым месцы. Разумееце?

-- Добра.

-- Будзем старацца.

-- Дарога дрэнная... -- раздаліся галасы "фігурак."

Пасьля даўгаватага адпачынку мы, сьпяшаючыся, рванулі наперад. Кручок вёў нас добра наезджанай дарогай, якая перасякала лясы і палі. Гэтай дарогай я ішоў першы раз, аднак добра ведаў усю мясцовасьць абапал тракту.

Дабраліся да берага рачулкі. Гэта была другая лінія. Пайшлі направа. Я ўбачыў даўгаватае, перакінутае праз ваду дрэва. Каро перабег на другі бок і сноўдаўся там па зарасьлях вярбы. Хутка вярнуўся да нас. Кручок распачаў пераправу. Досыць хутка перайшоў на другі бераг рачулкі. Потым "фігуркі", седзячы на ствале і ўпіраючыся рукамі аб дрэва, пачалі памалу сунуцца ўперад.

Чакаю, пакуль усе пераправяцца. Сьціскаючы рукаятку парабела, аглядаю шырокую адкрытую прастору паміж гэтай рачулкай і лесам. Мне ўсё здаецца, што там, на беразе лесу, ёсьць нейкія людзі... Ня ведаю, адкуль у мяне ўзьнікла такое ўражаньне. Магчыма, там сапраўды хавалася група перамытнікаў, чакаючы адпаведную хвіліну для пераходу другой лініі і рачулкі.

Пераправа закончана. Павольна ідзём лесам. Заўважаю, што людзі, якіх мы пераводзілі, вельмі хваляюцца. Стараемся крочыць як мага цішэй. Кручок пусьціў сабаку наперад.

Нарэшце дабраліся да граніцы. Кручок затрымліваецца, і мы доўга стаім нерухома... Зьлева далятаюць нейкія шоргаты. Яны штораз выразней даходзяць да маіх вушэй. Кручок павольна крочыць наперад і падыходзіць да густа парослых елак. Зьбіраемся ў кучу. І доўга, прыслухоўваючыся, стаім на месцы. А шолахі зьлева то ўзмацняюцца, то заціхаюць. "Альбо перамытнікі ідуць, альбо -- зялёнкі", -- думаю я.

Мне падалося, што шоргаты абмінаюць нас зводдаль і пасоўваюцца да мяжы. "А можа, гэта "дзікія"? У той жа момант зьлева, наўскасяк, перад намі гучаць адзін за другім некалькі стрэлаў, якія рознагалосым рэхам ляцяць па лесе. Пасьля чуваць галасы людзей:

-- Стой! Стой!..

-- Падай! Рукі ўгору!

"Спачатку забіваюць, а пасьля крычаць: "Стой!" -- прыслухоўваючыся, думаю я пра гэты лямант зьлева.

Кручок выходзіць з нашай схованкі і шэптам кажа:

-- Не адставаць... Крочыць ціха...

Пайшоў наперад, мы за ім. Трымаю падрыхтаваную для выстралу зброю. А галас зьлева не сьціхае. Чуваць адтуль стрэлы, воклічы, тупат ног. Прыкідваю, што адбываецца гэта на адлегласьці больш ста крокаў ад нас.

Выходзім на пагранічную паласу. На сьнезе бачым мноства сьлядоў, якія ідуць у розных напрамках. Гэта сьляды зявроў і людзей. Яны ўяўляюць цікавую кнігу жыцьця граніцы, адкуль той, хто ўмее чытаць, можа даведацца шмат цікавых рэчаў. Зьнікаючы ў лесе, на другім баку паласы, мы пакінулі ў той кнізе свае сьляды.

Пад раніцу завялі "фігурак" да стадолы на ўскрайку мястэчка. Я застаўся каля брамы, а Кручок пайшоў да хаты жыдоўкі, якая трымала гэты пункт. Праз квадру гадзіны вярнуўся. Побач крочыў нейкі стары жыд. Разам увайшлі ў гумно. Кручок зьвярнуўся да прысутных:

-- Вы знаходзіцеся ў Ракаве. Тут пункт. Тут вам усё растлумачаць, у чым трэба -- дапамогуць. Далей свае справы [illegible]шайце як захочаце. Зычу [illegible]пеху.

"Фігуркі" падышлі да нас. Адзін зь іх, старэйшы, імкнуўся ўсунуць Кручку, а потым мне некалькі залатых манет, аднак Кручок, а пасьля і я не [illegible]ялі грошы. Хлопец прамовіў[illegible]

-- Нам ужо заплочана... За ўсё сваё падарожжа вы разьлічыліся на пункце ў Мінску... Мы з вас шкуру зьдзіраць ня будзем. Нам хопіць таго, што зарабляем.

-- Але ж гэта ня плата! Цэнім вашу працу... Мы проста ўдзячны... Ну, і ў нас хапае!..

-- Тады штосьць іншае! -- адказаў Кручок. -- Калі так, дык трасіце.

Узяў 60 працягнутых яму залатых рублёў і 30 аддаў мне. Пасьля мы выйшлі з гумна і, сьпяшаючыся, накіраваліся бочнымі вулачкамі на Слабаду.

Ужо сьвітала, калі наблізіліся да хаткі Кручка. На ўсходзе неба ўсё больш ярчэла... Абвяшчала пра ўзыход сонца.

### 6

Прыйшла вясна. Зьнікла белая сьцежка. Лягла чорная. Але перамытнікі мала хадзілі за граніцу. Ночы былі кароткія, дарогі вельмі цяжкія, мяжа і пагранічча добра ахоўваліся. У параўнаньні з залатым сезонам зараз працавала толькі 10 працэнтаў перамытнікаў. Тавар за граніцу піхалі нерэгулярна -- выбіралі лепшыя ночы... Амаль усе старыя групы надоўга спынілі сваю працу. У той жа час хадзілі паўстанцы -- маладыя, недасьведчаныя хлопцы, якія ня мелі паняцьця аб перамытніцкай працы і хадзілі на хібіў-трафіў. Вельмі часта пападаліся, аднак іх месцы займалі новыя паўстанцы, якім прыходзіла ахвота зарабіць пару рублёў на гарэлку.

Разам з Кручком я быў пяць разоў за граніцай. Працягвалі вадзіць фігуркі. Сябра сказаў мне, што тыя пяцёра, каго мы перакінулі ў пачатку нашай агульнай працы, былі афіцэры.

-- Адкуль ты ведаеш? -- запытаўся ў яго.

-- Нюхам адчуваю!.. Я ўсялякага народу сотні перакінуў. Адразу кожнага пазнаю: што за ён!

У час нашай працы на пункт прывялі дзьвюх жанчын з двума дзецьмі і іхняга спадарожніка -- чалавека сталага веку. Мелі зь імі шмат клопату. Жанчыны напакутаваліся, а дзеці наплакаліся: вымушаны былі зрабіць днёўку ў лесе і толькі на другую ноч перайшлі граніцу. На трэці раз перавялі ў Ракаў папа з жонкай і дачкой. Яны вельмі баяліся. Поп увесь час паўтараў:

-- Каб, мае даражэнькія, толькі ўсё было ў парадку!

-- У нас заўсёды ўсё ў парадку! -- адказваў яму Кручок.

Акрамя перакідкі "фігурак" мы яшчэ займаліся перамытніцтвам. На кожным пераходзе заераблялі ад 60 да 150 рублёў золатам. Пасьля вяртаньня з-за граніцы мы звычайна адпачывалі 2--4 дні і зноў выходзілі ў дарогу. Кручок арганізоўваў справы на пункце. Купляў тавар, а я альбо сядзеў у хаце, чакаючы яго звароту, ці бадзяўся па лясах, якія зараз, пакрыўшыся веснавым зялёным уборам, выглядалі цудоўна.

Калі пяты раз мы вярнуліся з-за граніцы, Кручок, як звычайна, пайшоў у мястэчка, а я лёг спаць. Сябар не вярнуўся ні днём, ні ноччу. Гэта мяне занепакоіла, паколькі абяцаў вярнуцца ў той жа дзень пасьля палудня. Увесь наступны дзень яго таксама не было. І я ўжо меркаваў вечарам схадзіць на пункт, каб даведацца, што зь ім такое. Аднак незадоўга да зьмярканьня прыйшоў Шчур. Быў страшэнна ўсхваляваны. Ніколі не бачыў яго такім узбуджаным.

-- Што з табой?! Дзе Кручок?.. -- пытаюся ў яго.

-- З Кручком дрэнна! Ня ведаю, ці выжыве! Адаслалі ў шпіталь... Лорда арыштавалі...

-- За што?!

-- Заступіўся за Кручка!.. Гэта хамы! Гэта гады! Гэта жлабы! -- кляў Шчур.

Зь яго адрывістага апавяданьня даведаўся пра наступнае. Учора апоўдні Кручок і Лорд пайшлі выпіць у рэстаран Гінты. З нашых хлопцаў там нікога не было. Салон запоўнілі паўстанцы... Былі п'яныя і лезьлі біцца. Разам зь імі піў Альфрэд Алінчук. Меў нейкія агульныя інтарэсы. Лорд з Кручком прыселі за бакавы столік, паўстанцы пачалі чапляцца да Кручка. Іх падбухторваў Альфрэд, які не забыўся, як Кручок стукнуў яму бутэлькай па галаве на вечарынцы ў Сашкі. Адзін з паўстанцаў, зусім п'яны, кінуў у твар Кручку кавалак селядца. Кручок падскочыў да яго і стукнуў кулаком. За сябра заступіліся іншыя паўстанцы. Пачалася бойка. Біліся кулакамі, бутэлькамі, крэсламі. Паўстанцы схапіліся за нажы. Павалілі Кручка на падлогу. Тады Лорд, выхапіўшы рэвальвер, стрэліў некалькі разоў для спалоху, а калі падняласяпаніка, пачаў крэсламі біць паўстанцаў, якія ўцякалі. Двух моцна параніў. Яго арыштавалі. Кручок меў некалькі сур'ёзных нажавых ран. Альфрэд жа ўцёк, як толькі пачалася бойка.

Я быў страшна ўражаны гэтым апавяданьнем.

-- Што ж зараз будзе? -- запытаўся ў Шчура.

-- Ня ведаю. Кручок цяжка паранены. Можа, ня выжыве. А Лорд зараз пасядзіць і за зброю, і за пабоі.

-- Кепска! -- прамовіў я.

-- Дрэнна, браце! -- пацьвердзіў Шчур.

-- Цяпер адразу мы -- ты і я -- засталіся бяз працы! А групу Лорда д'яблы пабралі?

Шчур не адказваў і доўга маўчаў. Потым прамовіў:

-- Гэта яшчэ пабачым!

-- Што? -- не зразумеў яго адказу.

Шчур тупнуў нагой. Пальцы сьціснуў у кулакі.

-- Я ім гэтага не дарую!.. Ніколі!.. І Альфрэдзьку таксама! -- казаў, утаймоўваючы гнеў.

Замоўк і доўга нерухома глядзеў перад сабой.

-- Гарэлка ёсьць? -- запытаўся ў мяне пазьней.

-- Ёсьць.

-- Давай!.. Гэта клячы! Гэта жлабы! Гэта гады! -- зноў пачаў лаяцца Шчур.

Я прынёс [illegible]льку гарэлкі. Сябра адразу выпіў амаль палову пляшкі. Потым закурыў папяросу, сплёўваючы направа і налева, прамовіў:

-- Нічога. Ты гэта надта не бяры да галавы. Дадзім сабе рады і Лорду дапа[illegible]эм. А да Кручка трэба ма[illegible] паслаць. Пойдзем да яе.

Пераступілі парог. Шчур коратка расказаў маці Кручка пра здарэньне зь яе сынам. Бабулька хуценька апранулася і разам са Шчурам пайшла з хаты.

Разьвітваючыся, Шчур наказаў мне:

-- Ты далёка не адыходзься. Калі ўсё параблю ў мястэчку, вярнуся да цябе.

Шчур зьявіўся назаўтра ўвечары. Ужо быў п'яны. Сардэчна прывітаўшыся са мной, вымавіў:

-- Так, браце, пачнем работу! Вырабім ім скуру!

-- Каму?.. Якую работу!..

-- Паўстанцам. Я ім, халера, ні адной групы не прапушчу! Усе пакладу! Толькі трымацца клёва!

Мы сядзелі ў пакоі Кручка. Яго сястра нешта рабіла на падворку.

-- Дзе Кручок? -- запытаўся ў Шчура.

-- Павезьлі ў віленскі шпіталь. Трэба будзе рабіць аперацыю. Матка Кручка паехала разам зь ім.

-- А дзе Лорд?

-- Адаслалі ў Івянец. Да сьледчага.

-- Пра якую работу ты казаў?

-- Стоп! Тут шмат гутаркі. Трэба выпіць... Пасьля растлумачу ўсё падрабязна.

Мы выпілі бутэльку гарэлкі, і Шчур пачаў казаць:

-- Пакуль на мяжы працавалі нашы фартоўцы, усё было -- маё ўшанаваньне!.. Зьявіліся паўстанцы. Ходзяць за некалькі грошаў. Адзін у аднаго адбівае работу. Адзін другога засыпае. Можна сказаць, не фартоўцы, а хамы! Машыністы ў іх таксама гады. За імі нават "дзікія" ня хочуць знацца. Яны клікалі да сябе ў машыністы Сума, дык ён адказаў, што галодны будзе сядзець або ваду жыдам цягаць, чым са жлабамі справу мець! Тое самае сказаў і Бульдог... Некалі перамытнік -- то быў зух, а зараз -- альфонс, гультай альбо шпанюга! Зараз за пляшку гамэры паўстанец лепшаму хлопцу лязо ў бок усуне. Так, як зрабілі Кручку па намове Альфрэда! І ведаеш, што я зараз прыдумаў?

Я быў вельмі зьдзіўлены такой незвычайна доўгай для Шчура прамовай і запытаўся ў яго:

-- Уласна і жадаю даведацца хутчэй, што ты задумаў.

-- Хачу паўстанцкія групы разьбіваць і тавар забіраць. Калі гэтак доўга рабіць, купцы перастануць ім даваць тавар. Зразумеў?

-- А як уведаеш, куды ідуць?

-- Пра ўсё даведаюся ці ў машыністаў, ці ад хлопцаў з груп, ці сам высачу. Дам рады!.. Будзем "крыць" альбо тут, на пагранічча, альбо, сама лепш, у Саветах!

Шчур з усё большым запалам расказваў, як маркуе весьці работу. Паддакваючы, я ўлазіў у размову са сваімі заўвагамі. Незадоўга перад адыходам сябар вымавіў:

-- Пазбавілі, чэрці, нас добрых хлопцаў і працы! Але ж і мы ім пакажам, пачым фунт перцу!

Праз некалькі дзён зь Вільні вярнулася маці Кручка. Яе сын памёр у шпіталі, і матка з дачкой выплакалі па ім усе вочы. Калі глядзеў на іх роспач, мяне ахоплівала ўсё большая нянавісьць да паўстанцаў. Зь нецярпеньнем чакаў Шчура, але ён недзе прапаў, і я ўжо пачаў баяцца за перамытніка. Праз некалькі дзён ён прыйшоў. Радасна прывітаўся са мной:

-- Даўно б пайшла работа, але не хапала трэцяга хлопца!.. Трэба, каб яго ня ведалі паўстанцы.

-- Знайшоў?

-- Знайшоў! Зьезьдзіў за ім аж у Радашкавічы!

-- Хто гэта?

-- Янка Грабар. Ты яго ня ведаеш! Клё-ё-вы хлапец! Надзейны і баявы! Да любой працы здатны! І ня жмінда... Ведаеш, дзе яго пакінуў... для пачатку...

-- Дзе?

--У Петруся Філасафа. Сёньня ўвечары прынясём сюды шмат розных рэчаў. Я буду жыць у мястэчку і ўсё разьведваць, а вы тут... Трэба пагаварыць з маткай Кручка.

Паклікаўшы бабульку, запыталіся ў яе, ці згодна трымаць нас у хаце, бо мы хочам адчыніць тут пункт. З радасьцю згадзілася. Шчур жа паабяцаў добра ёй плаціць!

-- Але ж я і так магу! -- прамовіла бабулька. -- Вы былі яго добрымі сябрамі... Жывіце, як у сябе дома! -- і пачала плакаць.

-- Вы, мама, ня плачце! -- адказаў Шчур. -- Яшчэ пажывём!.. Ня трэба кідацца ў роспач. Прапала! А з пункта будзеце мець працэнты. Калі доўга шчасьліва папрацуем, то зьбераце Гэльцы на пасаг!

Я забыўся напісаць, што Каро -- сабака Кручка -- загінуў падчас бойкі з паўстанцамі. Абараняючы свайго гаспадара, ён кінуўся на іх. Паразрываў рукі, ногі, твары. Аднак адзін з паўстанцаў, лежачы на падлозе, распароў яму знізу бруха.

Таксама забыўся напісаць, што Юлік Вар'ят памёр у шпіталі ад сухот. Пра гэта паведаміў мне праз Шчура Пятрусь Філасаф.

Увечары разам са Шчурам прыйшоў новы сябра -- Янка Грабар. Гэта быў мужчына сярэдняга веку, дастаткова моцны і вельмі спрытны. Меў сьветлыя валасы, якія наперадзе выпалі, і там утварылася досыць вялікая лысіна. Увесь час сьмяецца і прыплюшчвае ўважлівыя шэрыя вочы. Яму магло быць гадоў 40. Часта пацірае далоні і казаў: "Пайшло!.. Першая катэгорыя!"

Сябры прынесьлі два вялікія пакункі. Распакавалі мы іх на гарышчы, дзе мелі схованку і куды можна было, ня будзячы матку Кручка і Гэлю, лёгка залазіць па страсе, а пры небясьпецы -- уцякаць ва ўсе бакі праз спецыяльна зробленыя для гэтага ў даху дзьверцы. І скрозь паблізу рос лес.

У пакунках было шмат усялякага адзеньня і шапак. Акрамя таго, знаходзіліся там розныя незразумелыя па прызначэньні прылады.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—4.

# У ВІЦЕБСКУ, У ЗАДЗВІННІ



АДНОЙЧЫ пагодным вераснёвым днём мне пазваніла Таццяна Туманава, дырэктар Віцебскага гарадскога культурна-рэабілітацыйнага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. Як высветлілася, цэнтру зараз належыць комплекс пабудоў у гістарычнай частцы горада, якім рашэннем Віцебскага аблвыканкома ў 1988 годзе быў нададзены статус помнікаў архітэктуры XIX -- пачатку XX стагоддзяў. "Якая гісторыя гэтых будынкаў? -- пыталася Таццяна Уладзіміраўна. -- Я ведаю, што некалі тут стаяла царква, пра яе мне не раз распавядала маці. Зараз усё панішчана, але ж мы павінны ведаць гісторыю і намагацца яе аднавіць ды ўшанаваць". Такое стаўленне кіраўніка прадпрыемства да праблем захавання гістарычнай спадчыны горада вельмі ўсцешыла, і я паабяцала сваю дапамогу.

Той кавалачак старога Віцебска, пра які ішла размова са спадарыняй Туманавай, даўно ўжо прыцягваў да сябе маю ўвагу. Шчыльнае карэ адна- і двухпавярховых мураванак, што з трох бакоў ахоплівае квартал, утворана перасячэннем вуліц Калініна, Энгельса, Кастрычніцкай і Рэвалюцыйнай, нават пры павярхоўным аглядзе выдае яўную рознагасовасць узвядзення асобных будынкаў, інтрыгуе суіснаваннем побач розных пластоў культуры. Увесь комплекс пабудоў належыць зараз культурна-рэабілітацыйнаму цэнтру, аднак часткай памяшканняў з-за іх занядбанага стану нельга нават карыстацца. Тым не менш менавіта яны маюць самы паважаны ўзрост і паходзяць не з XIX, як тое вызначана камісіяй аблвыканкома, а з XVIII стагоддзя і з'яўляюцца рэшткамі паштовага двара, што некалі існаваў тут. У будынках на рагу вуліц Калініна і Энгельса, адкуль не так даўно з'ехала бальніца імя партыйнага дзеяча Міхаіла Калініна, на мяжы XIX і XX стагоддзяў размяшчалася ўстанова з больш гуманнай назвай -- абшчына Чырвонага Крыжа. У той частцы квартала, дзе зараз абрываецца карэ будынкаў, яшчэ некалькі дзесяцігоддзяў таму назад стаяла драўляная Свята-Мікалаеўская царква, узведзеная ў канцы XVIII стагоддзя. Зараз на яе месцы знаходзіцца безаконны жалезабетонны монстр склада.

Семантыка сённяшніх назваў вуліц, што акаляюць квартал, звязана выключна з Кастрычніцкім перакулам — "адзінай" падзеяй у гісторыі Беларусі. На пачатку ж стагоддзя гэтыя назвы былі значна больш прывабныя: Нікольская, Богаяўленская, Верхне- і Ніжне-Пятроўскія. Вызначалі яны наяўнасць у гэтым раёне адпаведных цэркваў: у гонар Св. Мікалая, Богаяўленскай, Св. Пятра і Паўла. Гарадская прастора Віцебска ў той час была так моцна сакралізавана, што не ўсе культавыя аб'екты нават знаходзілі сваё адлюстраванне ва урбананіміі. Так, насупраць Мікалаеўскай царквы на рагу Нікольскай і Ніжне-Пятроўскай вуліц стаяла лютэранская кірха, ад якой зараз не засталося і следу. Кірха была пераасвячона на пратэстанцкую бажніцу з піярскага касцёла, і гісторыя абодвух храмаў не пазбаўлена цікавасці і пэўнае адметнасці. Менавіта яе мне і хочацца распавесці цярпліваму чытачу.

## КАСЦЁ. КІРХА

Да ўзвядзення ў 1867 годзе ў Віцебску пастаяннага, так званага мураванага моста праз Заходнюю Дзвіну вельмі доўгі час зносіны паміж дзвюма часткамі горада ажыццяўляліся праз драўляны мост, які штогод зносіла веснавая паводка. Размяшчаўся ён крыху вышэй за сучасны Кіраўскі мост, з другога боку вусця рэчкі Віцьбы. Драўляны мост праз Дзвіну амаль па прамой лініі злучаў адміністрацыйны і гандлёвы цэнтр Віцебска з дарогай на Полацк. Менавіта тут, у Задзвінні, пры дарозе на Полацк, у 1751--1753 гадах з фундацыі віцебскіх мяшчан Андрэя і яго жонкі Ганны Лапаўны Свіршчэўскіх былі ўзведзены муры касцёла і кляштара ксяндзоў-піяраў.

Ордэн піяраў быў шырока вядомы сучаснікам глыбокімі традыцыямі ў сферы адукацыі і выхавання моладзі. Віцебскія піяры пры сваім кляштары адкрылі школу, у якой было 5 класаў. Яна славілася і тым, што пры ёй дзейнічаў школьны тэатр, у якім у 1765 годзе была пастаўлена трагедыя ў 3-х актах Я.Кушаля "Артаксар". Усе тэксты ў ёй прамаўляліся вучнямі-акцёрамі па-польску, а сама трагедыя была нават выдадзена ў год пастаноўкі ў выглядзе асобнай кніжкі ў Вільні.

У 1785 годзе князь Рыгор Пацёмкін, скандальна вядомы фаварыт расійскай імператрыцы Кацярыны II, карыстаючыся нагодай знаходжання ў Санкт-Пецярбургу папскага нунцыя Арыгеці, атрымаў ад апошняга дазвол на перамяшчэнне ксяндзоў-піяраў з Віцебска ў ахвяраванае яму мястэчка Дуброўна ў Аршанскім павеце. Яснавяльможны князь вызначыў піярам на новым месцы фундуш "на ўтрыманне вучылішча для шляхетнага юнацтва" ў памеры 15 000 рублёў і вёскі Азоркава. У 1799 годзе мітрапаліт рымакаталіцкіх цэркваў у Расійскай імперыі вярнуў ксяндзоў-піяраў з Дуброўны ў Віцебск.

На пачатку жніўня 1803 года з мэтай рэвізіі мясцовых навучальных устаноў губернскі Віцебск наведаў акадэмік Расійскай акадэміі навук, калежскі саветнік і ордэна Св.Ганны другога класа кавалер Васіль Севяргін. У складзеным ім начальству данясенні адзначалася, што піярскую школу наведвала 68 вучняў і навучанне там вялося "ў ніжэйшых класах на польскай мове, а ў вышэйшых -- на лацінскай".

Цікава адзначыць, што пэўны час у віцебскай піярскай вучэльні выкладаў Гіляры Заблоцкі -- бацька славутага паэта Тадэвуша Лады-Заблоцкага (1811--1847), які шмат твораў прысвяціў роднай Беларусі. Тадэвуш Лада-Заблоцкі вучыўся ў Віцебскім базыльянскім вучылішчы, і ў сваёй паэме "Ваколіцы Віцебска" прысвяціў яму наступныя цудоўныя радкі, якія з поўным правам можна аднесці і да іншых прыкляштарных вучэльняў:

**"Ля старажытнага**
**стылёвага касцёла**
**Стаіць даўнейшы**
**храм навукі -- наша школа,**
**Дзе выхавальнікі**
**праслаўленага веку**
**Стараліся развіць**
**у юным чалавеку**
**Магчымасці яго, і розум**
**вызваліць з цямніцы,**
**...вясціць адвечнай**
**праўды таямніцы.**
**О школа! Тут прыняў я**
**першыя асновы**
**Навук, цнатлівасці**
**на тэрмін шматгадовы,**
**Тут жа раніца**
**жыцця майго мінала**
**І мой юнацкі**
**розум спраўна развівала".**

*(Пераклад з польскай П. Бітэля).*

Найбольш грунтоўнае даследаванне па гісторыі Віцебскага піярскага кляштара пакінуў нам Марэк Газдава, які змясціў яго ў першым томе часопіса "Літоўскі квартальнік" за 1910 год. Гэтае даследаванне было зроблена на падставе архіўных дакументаў, большую частку з якіх аўтару ўдалося адшукаць сярод рукапісаў музея Чартарыскіх у Кракаве.

У 1822 годзе віцебскія піяры былі пераведзены ў Полацк, у калегіум толькі што выгнаных з імперыі ксяндзоў-езуітаў. Звесткі пра далейшы лёс былых піярскіх муроў у Віцебску знаходзім у дакументах нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь. Сярод папер канцылярыі віцебскага грамадзянскага губернатара сустракаем "Справу аб перадачы будынка Віцебскага піярскага кляштара ваенна-сіроцкаму аддзяленню", якая датавана 1826--1827 гадамі. Аказваецца, пасля пераводу ксяндзоў-піяраў з Віцебска кляштар разам з касцёлам быў перададзены "грэка-расійскаму духавенству Маркава манастыра". Аднак, як гэта ні дзіўна, з канца 1825 года ў кляштары размяшчаліся "трэцяй артылерыйскай брыгады першай роты лазарэт, аптэка, цяслярская, малярня, кавальская, слясарня, рымарня, школы: музычная, барабанная і ланкастарская, цэйхгауз і шпальня", за якія архімандрыт Віцебскага Маркава манастыра спаганяў з вайскоўцаў пэўную арэндную плату. Пасля выступлення з горада артылерыйскай брыгады кляштарныя будынкі занялі "лазарэтамі дывізіённым і Ялецкага пяхотнага палка з рознымі майстэрнямі". Пазней з'явілася думка перавесці ў колішнія піярскія муры манахаў Маркава манастыра, які знаходзіўся на адлегласці дзвюх вёрст ад горада, а будынкі праваслаўнага манастыра перадаць ваенна-сіроцкаму аддзяленню. Аднак кіраўніцтву кансісторыі не спадабаліся старыя кляштарныя будынкі, якія пасля вайскоўцаў патрабавалі грунтоўнага рамонту, а флігель ад'ютанту палкоўніку Дурнаво падаліся не прыдатнымі для размяшчэння кантанцістаў пабудовы Маркава манастыра. Такім чынам, усё засталося на сваіх месцах, і прадстаўнікі пануючага ў імперыі веравызнання і іх ахоўнікі-вайскоўцы чарговы раз паразумеліся паміж сабою.

Колішні піярскі кляштар стаяў зачыненым да 1833 года, пакуль па загаду імператара Мікалая I не быў перададзены тутэйшым немцам евангелічна-лютэранскага веравызнання.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**(Заканчэнне будзе).**

Івану ШАМЯКІНУ — 75 ГАДОЎ

# ХОЧАЦЦА, КАБ ЖЫЦЦЁ БЫЛО ЛЕПШЫМ...

Падводзячы вынікі пражытага і напісанага, Іван Шамякін зазначае, што сёлета ў яго два юбілеі -- сямідзесяціпяцігоддзе з дня нараджэння і пяцідзесяцігоддзе з пачатку творчай дзейнасці. За гэты час напісана адзінаццаць раманаў, дваццаць чатыры аповесці, нямала сцэнарыяў і апавяданняў. Сярод найбольш вядомых твораў пісьменніка -- "Глыбокая плынь", "Крыніцы", "Сэрца на далоні", "Трывожнае шчасце", "Атланты і карыятыды", "Петраград -- Брэст", "Злая зорка". Творы пісьменніка перакладзены на трыццаць моў свету, і, мусіць, цяжка знайсці ў Беларусі чалавека, які не быў бы знаёмы з творчасцю Івана Шамякіна.



Калі ж лічыць скрупулёзна, то перыяд творчасці ў пісьменніка намнога большы за 50 гадоў, бо свае першыя вершы ён прыносіў у рэдакцыі яшчэ ў даваенныя гады, і яны друкаваліся. Іван Пятровіч успамінае выпадак, калі ён, студэнт Гомельскага будаўнічага тэхнікума, у 1939 годзе прынёс у літаб'яднанне апавяданне. Яно спадабалася, і яму параілі пісаць не вершы, а прозу. З прозы, у гады вайны напісаўшы першую аповесць "Помста", Іван Шамякін і пачаў свой шлях у вялікую літаратуру.

Да нядаўняга часу творчасць пісьменніка была вельмі сучаснай, надзённай, а ў апошнія гады яго пачала хваляваць і гісторыя. Іван Пятровіч гаворыць, што гістарычныя раманы з'явіліся не раптоўна. Недзе падсвядома яго заўсёды хвалявала і цікавіла гістарычнае мінулае Беларусі. Першым такім раманам быў "Петраград -- Брэст", а зусім нядаўна ў часопісе "Маладосць" пачаў друкавацца раман "Вялікая княгіня". Падзеі вяртаюць чытача ў глыбіню стагоддзяў. Напісанню рамана папярэднічала вялікая праца -- пісьменнікам было прачытана шмат кніг беларускіх, польскіх і рускіх даследчыкаў. Чытаючы Карамзіна, пісьменнік даведаўся пра лёс дачкі Вялікага князя Маскоўскага Івана III -- Алены, якая выйшла замуж за літоўскага князя Аляксандра. Яна вельмі рана і пры загадкавых абставінах памерла, апошнія гады жыцця правяла ў беларускім горадзе Браславе, які ёй падараваў муж Аляксандр.

Захапленне гісторыяй зусім не перашкаджае Івану Шамякіну цікавіцца сучасным жыццём сваёй Беларусі, быць у курсе спраў, мець уласную думку адносна падзей, што тут адбываюцца. Тое, што апошнім часам мала выходзіць беларускіх твораў, зусім не сведчыць, што пісьменнікі мала пішуць, гаворыць Іван Шамякін. Рэдакцыйныя партфелі літаратурных часопісаў перапоўнены. Асабліва прыемна, што многа піша моладзь, аб чым сведчыць часопіс "Першацвет". Гэта дае надзею, што нягледзячы на катастрафічнае падзенне кніжных тыражоў, роднае слова будзе жыць, а значыць не загіне і беларуская літаратура.

Хвалююць пісьменніка і такія праблемы, як падзенне духоўнасці ў нашым грамадстве, збядненне народа, беспрацоўе, асабліва сярод моладзі. Ён гаворыць: "Вельмі хочацца, каб жыццё ў нашай краіне стала лепшым, а наш народ -- багацейшым. І кашальком, і духам. Каб пачуваў ён сябе ў сваёй краіне гаспадаром".

**НА ЗДЫМКУ: Іван ШАМЯКІН з навучэнцамі ліцэя пры Беларускім гуманітарным цэнтры.**

# ПРАЗ СМУГУ СТАГОДДЗЯЎ

Менавіта так названа мастацкая выстава, адкрытая ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Прымеркавана яна да 950-годдзя колішняй сталіцы Вялікага Княства Літоўскага --старажытнага Навагародка і складаецца з твораў мастакоў, вытокі і жыццё якіх звязаны з прынёманскім беларускім краем. Большасць з іх на сённяшні час жывуць у Мінску. Але ж, як вядома, значную частку беларускай, а ў пэўнай ступені і польскай эміграцыі складаюць выхадцы з Наваградчыны. Таму зусім натуральна, што на выставе прадстаўлены творы мастачак Галіны Русак і Тамары Стагановіч са Злучаных Штатаў Амерыкі.

Наладжана выстава па ініцыятыве грамадскай арганізацыі "Згуртаванне наваградцаў свету" пры дапамозе выставачнага комплексу "На ростанях", найперш дзякуючы старанню мастацтвазнаўцы Ларысы Дабравольскай. На адкрыццё прыйшлі вядомыя ў рэспубліцы людзі, жыццё і дзейнасць якіх звязаны з Наваградчынай. Гэта наш славуты гісторык Мікола Ермаловіч, які ўзараў пласт беларускай старажытнасці, у тым ліку і навагародскі перыяд, пісьменніца Вольга Іпатава (аўтарка лібрэта оперы пра даўнія наваградскія часы), намеснік міністра культуры, аўтар паэтычнага зборніка Іван Карэнда, скульптар Валеры Янушкевіч, якому належыць аўтарства выдатнага помніка Адаму Міцкевічу ў Наваградку. Ды і старшыня таварыства дружбы спадар Арсень Ваніцкі таксама непасрэдна далучаны да Наваградчыны сваёй маладосцю і нязменнай цікавасцю да гэтага краю, што ён пацвердзіў сваім выступленнем. Выступоўцы выказалі шмат цікавых думак, меркаванняў, прапаноў. Ну хоць бы такую: В.Янушкевіч захоплены марай паставіць у Наваградку помнік князю Міндоўгу на кані. Задума мае права на падтрымку з featuresрознага гледзішча. Ад удзельнікаў выставы гаварыў Сымон Герус, якому давялося багата на сваім вяку пабачыць і перажыць, стварыць шмат цікавых прац у жанры станковай і кніжнай графікі.

Паколькі выстава прысвечана гістарычнай даце, то, зразумела, часы мінулыя ці іх водгулле ўвасобіліся ў мастацкіх творах. З жывапісцаў на славу песняра Наваградчыны, бадай, найбольш мае права прэтэндаваць Кастусь Качан, які працуе ў класічнай рэалістычнай манеры. Ён умее, як жывую, перадаць рэальнасць жыцця, аднак толькі гэтым не задавальняецца, бо ў яго карцінах таксама і роздум над часам, над тым, што было і засталося, над нашым стаўленнем да сваёй гістарычнай спадчыны. Гісторыя, вобразы навагрудскага краю ўвасобіліся таксама ў творчасці Віктара Нямцова і Міколы Цудзіка.



Годна на выставе прадстаўлены графік Віктар Сташчанюк, якому давялося шмат і дбайна папрацаваць над тым, каб глядач здолеў убачыць на графічным палатне Навагародак такім, якім ён быў у старажытнасці. Даводзіцца толькі скрушна паўздыхаць, што так мала ад былой велічы датрывала да нашых дзён, ды пазайздросціць нашым суседзям, літоўцам і палякам, якія здолелі адрэстаўраваць свае замкі і палацы. А нам бы пакуль што закансерваваць рэшткі вежаў, каб яны хаця не рухнулі...

І ўсё ж выстава – не сачыненне на зададзеную тэму, а выяўленне магчымасцяў мастакоў у манеры, якая ім найбольш адпавядае, дзе яны могуць рэалізаваць сябе найпаўней і цікавей. Радуюць вока карціны Раісы Сіплевіч, якая стварае сваю мастакоўскую індывідуальнасць, своеасаблівы свет фарбаў, фантазій, той, што снуецца ў снах і марах тонкіх паэтычных душ, якія, насуперак нашаму рацыянальнаму дню, здольны бачыць, а найбольш уяўляць жыццё прыгожым, чаканым, чарадзейным.

Па-свойму ўласціва гэта і яе далёкім суродзічкам Галіне Русак і Тамары Стагановіч, персанальныя выставы якіх раней ладзіліся ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі і ўспрымаліся гледачамі тады з энтузіязмам, як з'явы неардынарныя, значныя.

Колісь Наваградчына славілася і народнымі майстрамі. На кірмашах тут стыхійна ладзіліся своеасаблівыя выставы-продажы самых разнастайных вырабаў. Але кірмашы тыя адышлі, народныя майстры паўміралі, іх традыцыі згаслі і перапыніліся. Але, на шчасце, не ўсюды і не заўсёды. Пацвярджэнне гэтаму -- вітрына вырабаў з бярозы-чачоткі наваградскага майстра Алеся Кундры.

Сярод наваградцаў выявіўся і сатырык Мікола Сяўлюк, малюнкі якога неаднойчы друкаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы.

Прынцыпам выставы было прадставіць мастакоў, якія працуюць сёння. Але такая задума не была вытрымана да канца, бо цяжка, а па сутнасці, немагчыма было сабраць з Беларусі, а тым больш з далёкага і блізкага замежжа ўсіх творчых людзей, што выяўляюць сябе ў той ці іншай галіне мастацтва. У Францыі, напрыклад, жыве мастак і скульптар Міхась Навумовіч, а ў Вільні -- Мікола Аблажэй.

Сярод тых, што адышлі, таксама не менш цікавыя і значныя. Найперш тут варта згадаць надзвычай плённага і бясспрэчна аднаго з самых у свой час цікавых на Беларусі жывапісцаў Міколу Дучыца і заўчасна адышоўшага скульптара Віктара Гроса. Абодва яркія творчыя індывідуальнасці і заслужылі, каб былі арганізаваны іх пасмяротныя персанальныя выставы, пра што, мабыць, найперш варта парупіцца Згуртаванню наваградцаў свету ды Саюзу мастакоў.

950 гадоў назад упершыню ў Іпацьеўскім летапісе згадваецца горад Новагародак, якому праз пэўны час суджана было стаць першасталіцай магутнай еўрапейскай дзяржавы -- Вялікага Княства Літоўскага, межы якога потым сягалі ад Балтыкі да Чорнага мора. Сённяшні Наваградак -- бадай што, звычайны раённы цэнтр. Такім ён, ва ўсякім разе, існуе ў масавай свядомасці, дзе ўвогуле не заўсёды ёсць месца для ўсведамлення такіх бясспрэчных духоўных каштоўнасцяў, як мова, гістарычная спадчына, сімволіка, нацыянальная годнасць. Але ж без усяго гэтага няма культурнага цывілізаванага грамадства, а значыць, і годнай у народа будучыні, шчаслівага жыцця. Дык ці ж павінны мы забывацца на сваю мінуўшчыну, на пройдзены нашым народам слаўны і пакутны адначасова гістарычны шлях? Калі хочам людзьмі звацца -- не! Пра гэта мовай мастацтва нагадвае і выстава "Праз смугу стагоддзяў".

**Яўген ЛЕЦКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: Кастусь КАЧАН. "Наваградак". 1990 год; В. НЯМЦОЎ. "Стары млын". 1993 год; Мікола ЦУДЗІК. "Мосцік". 1995 год.**





**СУСТРЭЧА З СЯСТРОЙ ПІСЬМЕННІКА**

*Быў. Ёсць. Буду.*
*Таму, што заўжды, як пракляты,*
*Жыву бяздоннай трывогай,*
*Таму, што сэрца маё распята*
*За ўсе мільярды двухногіх.*

**У. КАРАТКЕВІЧ.**

# ЁН АДДАЎ РАДЗІМЕ СЭРЦА І СІЛЫ

"Быў. Ёсць. Буду". Такую назву мае выстава, што працуе ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Прысвечана яна 65-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. У перасоўным варыянце выстава экспанавалася на радзіме пісьменніка ў Оршы.

Пры стварэнні выставы калектыў музея не імкнуўся ахапіць усе этапы жыцця і творчасці У.Караткевіча. Таму, не робячы аналізу жыццёвага і творчага шляху пісьменніка, мы прадставілі арыгінальныя фотаздымкі, рукапісы, творы, яго асабістыя рэчы. У аснову выставы пакладзены матэрыялы з фондаў музея, за якія мы вельмі ўдзячны сястры У.Караткевіча, Наталлі Кучкоўскай, захавальніцы спадчыны пісьменніка. Менавіта яна перадала ў музей усе матэрыялы, з якімі маюць магчымасць пазнаёміцца нашы наведвальнікі.

Праз усю экспазіцыю праходзяць малюнкі У.Караткевіча, як сведчанне таго, што прырода шчодра адарыла яго яшчэ адным талентам.

Уладзімір Караткевіч быў заўзятым падарожнікам, ён аб'ездзіў усю Беларусь. Вандраваў за народнай песняй і трапным словам, дзеля сустрэч з жывымі людзьмі і помнікамі гісторыі. А яшчэ былі паездкі ў братнія рэспублікі і замежныя краіны. І адусюль ён прывозіў уласнаручна зробленыя фотаздымкі, сувеніры, што займалі свае месца на кніжных паліцах. Колькі там было гліны і дрэва, забаўных чарцей і рэдкіх выкапняў! Многія з гэтых сувеніраў прадстаўлены сёння на нашай выставе. Звяртае на сябе ўвагу нязвыклы экспанат – надзіманы плыт. Гэта той плыт, на якім зрабіў сваю апошнюю вандроўку У.Караткевіч сумесна з фатографам В.Ждановічам і мастаком П.Драчовым. Мастак П.Драчоў і аформіў выставу "Быў. Ёсць. Буду."

Выстава карыстаецца поспехам у жыхароў сталіцы, асабліва ў вучняў і настаўнікаў. Сведчанне таму -- мерапрыемства, якое адбылося ў музеі адразу пасля адкрыцця выставы.

Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры школ Мінскага раёна пажадалі даведацца пра жыццёвы і творчы шлях Уладзіміра Караткевіча ад сястры пісьменніка Н.Кучкоўскай. Менавіта з Наталляй Сямёнаўнай і была наладжана сустрэча ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Шмат цікавага змаглі пачуць настаўнікі аб Уладзіміру Караткевічу – пісьменніку, чалавеку. Напрыканцы сустрэчы настаўніца Эльвіра Ярчак прачытала свой верш, прысвечаны Уладзіміру Караткевічу.

**Зінаіда КУЧАР.**



**Дырэктар аб'яднання Дзяржаўных літаратурных музеяў Л. ХАДКЕВІЧ вітае сястру У. Караткевіча Наталлю КУЧКОЎСКУЮ ў час адкрыцця выставы "Быў. Ёсць. Буду".**

**Эльвіра ЯРЧАК**

**О паэт! Ты засеяў палі нашы сціплыя**
**Зернем вечнай любові да волі святой,**
**Да гісторыі нашай, да продкаў дасціпных,**
**Мужных сэрцам і чыстых, як белы сувой.**

**Мы, паэт, каласы, гнемся мы, ды не ломімся,**
**Хоць гісторыі серп нас бязлітасна жаў,**
**Хай жа Бог нас ратуе, якому мы молімся,**
**Ад уціску суседніх вялікіх дзяржаў.**

**Хай ратуе нас Бог ад вайны, ад бяспамяцтва,**
**Бо таго, што было, нельга, нельга забыць!**
**Як чазенія, край, што нашчадкам дастанецца,**
**Шанаваць яго трэба і моцна любіць.**

**Так любіць, як любіў ты, паэт, сваю мілую,**
**Легендарную, светлую Белую Русь.**
**Ты аддаў ёй усё -- сваё сэрца і сілы,**
**Каб наблізіць жаданае волі зару.**

**І Хрыстос прызямліцца ў Гародні ці Оршы,**
**Бо чароўны наш край і цярплівы народ,**
**Што гаворыць на мове пявучай, прыгожай**
**І раджае паэтаў, што славяць наш род.**

# МІХАСЬ РАМАНЮК І НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТРОІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Замілавана ўспрынялі прысутныя і даніну павагі мастака сваёй 85-гадовай маці Алесі Харытонаўне, якая годна стаяла побач не толькі ў гэты святочны вечар, але і заўжды была для яго сімвалам Радзімы, і адкрыццё выставы 13-гадовай дачкой Алесяй. Асабліва ўзрушыла тое, што стромкую постаць дзяўчынкі падкрэсліваў аўтэнтычны (а не рэканструяваны ў матэрыяле) строй Капыльска-Клецкага рэгіёна. Раманюк дарэчы прыгадаў усім добрую вясковую традыцыю -- памятаць, што ўсім добрым у нас мы абавязаны маці. А даручыўшы адкрыццё выставы дачцэ, Міхась Раманюк нібы перадаў ёй бацькоўскі наказ -- захоўваць паважлівае стаўленне да сваіх продкаў і да плёну працы іх рук і душы. На нашых вачах нібы адбылася перадача эстафетнай палачкі ад старэйшага пакалення -- маладзейшаму.





Але вернемся да унікальнай карты. Яна вынік 25-гадовай мастакоўскай і тытанічнай даследчыцкай працы Міхася Раманюка. У гэты момант кожны прысутны беларус адчуў уласную далучанасць да багатай культурнай спадчыны свайго народа. Добра было б выдаць гэту карту ў выглядзе плаката ці насценнага календара, каб людзі ўбачылі сваё нацыянальнае багацце і можа нарэшце ўпэўніліся, што беларусы маюць права не толькі "людзьмі звацца", але і годна пачувацца між суседнімі народамі.

Незвычайнасць выставы праявілася і ў тым, што на ёй мы ўбачылі не толькі мастака-графіка, але і навукоўца, апантанага даследчыка, таленавітага этнографа і мастацтвазнаўца, збіральніка і прапагандыста народнага беларускага мастацтва. Сама выстава нібы мае чатыры галіны (раздзелы) творчасці: 1. Мастацка-графічныя, рэканструкцыі нацыянальных касцюмаў гістарычна-этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі; 2. Уласныя мастацкія фатаграфіі аўтэнтычных касцюмаў, зробленыя Раманюком у час экспедыцый, і набытыя ў вяскоўцаў фота іх родзічаў у касцюмах канца XIX -- сярэдзіны XX стагоддзяў. Гэты раздзел Раманюк умоўна назваў "Людзі і строі з падстрэшшаў вясковых хат". Большасць сялян сфатаграфавана на фоне ніжніх вянцоў сваёй хаткі, а верхні ракурс, абраны фатографам, адлюстраваў не толькі людзей, але і саламяныя падстрэшшы.

Трэці раздзел -- гэта распрацаваныя ім малюнкі і арыгіналы паштовых марак, перададзеных у свой час для друкавання, а таксама ўжо аддрукаваныя масавым тыражом паштовыя маркі з выявамі рэканструяваных ім жа беларускіх нацыянальных стр... ...рох рэгіёнаў.

У чацвёрт... раздзеле пададзена большасць друкаваных прац Міхася Раманюка як этнографа-даследчыка беларускага нацыянальнага касцюма і яго прапагандыста. Тут паказаны наборы яго пр... ...аў, паштовак і буклетаў з ...явамі розных строяў беларускіх рэгіёнаў, надрукаваныя з яго фотаслайдаў і акварэльна-гуашавых малюнкаў, дзве манаграфіі і альбом "Беларускае народнае адзенне". Прыгадаю, што ў 1981--1982 гадах М. Раманюк дэманстраваў сваю калекцыю аўтэнтычнага народнага адзення і краязнаўчыя фатаграфіі, сабраныя ў экспедыцыях, на выставе "Беларускі народны касцюм" у Парыжы і Ліёне. У Францыі выдалі яго невялічкую манаграфію і каляровы плакат па згаданай тэме, выстава асвятлялася ў часопісе "Францыя – СССР". Усе друкаваныя матэрыялы прадстаўлены на выставе.

Першы самы буйны раздзел выставы ўяўляюць мастацка-графічныя рэканструкцыі нацыянальнага касцюма беларусаў. Сярод іх пераважаюць святочныя строі розных рэгіёнаў. Але мастак рэканструяваў таксама касцюмы абрадавыя, рытуальныя і побытавыя; адзенне жаночае, мужчынскае і дзіцячае. У акварэльна-гуашавых рэканструкцыях касцюмаў 16 рэгіёнаў мастак падкрэслівае багаты каларыстычны густ беларускіх сялянак і местачковых жанчын, іх разуменне колеру і ўменне выдатна згарманізаваць лакальныя колеры ў прыемную гаму фарбаў фіялетава-сіне-чырвоных, зялёна-жоўта-блакітных, малінава-чырвона-жоўтых, зялёна-жоўта-аліўкавых, карычнева-аліўкава-жоўтых і г.д.

Выстава М. Раманюка дае выхад у практыку. Выкарыстоўваючы яго рэканструкцыі, сучасны беларускі мадэльер можа стварыць бліскучую калекцыю сучаснага адзення па матывах беларускага нацыянальнага касцюма, якую годна прадэманструе нават у Парыжы -- сталіцы сусветнай моды.

Пададзеныя на выставе фота падкрэсліваюць дакументальна-навуковую дакладнасць рэканструкцый мастака і этнографа. Усім жа вядома, што фота -- гэта дакумент пэўнай эпохі. Як бы сучасны глядач мог паверыць, што жанчыны беларускага Палесся яшчэ ў пачатку XX стагоддзя насілі такія буйныя галаўныя ўборы (у форме цюрбана), як так званую "Тураўскую галовачку" давыд-гарадоцка-тураўскага строю ці больш вытанчаны галаўны ўбор маларыцкага строю сярэдзіны XX стагоддзя, які ўпрыгожаны малінава-сіне-зялёна-жоўтымі пер'ямі.

Уласна мяне больш за ўсё на выставе ўразілі разнастайныя і вельмі незвычайныя (на погляд сучасніка) жаночыя галаўныя ўборы; пакрой і колер мужчынскіх світак і "куртачоў" (кароткіх світак), жаночай світкі лепельскага строю, каларыстычная згарманізаванасць многіх лакальных колераў у жаночых касцюмах пінска-івацэвіцкага строю, лепельскага, дзісенскага і маларыцкага строю сярэдзіны XX стагоддзя.

Увогуле на выставе было шмат прыхільнікаў як творчасці мастака, так і яго навукова-этнаграфічнай і выкладчыцкай дзейнасці. У яе адкрыцці прынялі ўдзел: міністр культуры і друку Беларусі А. Бутэвіч, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і ...льклору Акадэміі навук М. ...енка, рэктар Акадэміі мас...цтваў Беларусі, народны мастак В. Шаранговіч, каардынатар праграм Беларускага аддзялення фонду Сораса, кандыдат філасофскіх навук А. Анціпенка, ...аўнік прадстаўніцтва ДЭУ ...ектронікс у Беларусі" Сок ...к. Вон.

Сам Міхась Раманюк быў удзячна ўражаны прыхільнасцю многіх людзей да яго дзейнасці, калі ўбачыў, што залы першага паверха музея не ў стане змясціць усіх жадаючых. Гэта быў заслужаны трыумф Міхася Раманюка як асобы, мастака, этнографа-даследчыка, выкладчыка.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**Здымкі зроблены В. СТАВЕРАМ у час адкрыцця выставы ў Нацыянальным музеі. Там жа зроблены фатаграфіі экспанатаў, што былі прадстаўлены гледачам.**





## ФАКСІМІЛЬНАЕ ВЫДАННЕ "АД РОДНЫХ НІЎ"

Напрыканцы мінулага года, роўна праз пяцьдзесят тры гады, у Слоніме пабачыла свет факсімільнае выданне першай кніжкі нашай слыннай паэткі Ларысы Геніюш "Ад родных ніў". А выйшла яна ўпершыню з друку ў Празе ў 1942 годзе. Справа ў тым, што яшчэ да вайны Ларыса Геніюш выехала ў Прагу, дзе жыў і вучыўся ва універсітэце яе муж Янка Геніюш. Там паэтка адразу ўключылася ў жыццё беларускай эміграцыі, у дзейнасць урада Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты ж час і выходзіць яе паэтычная кніга "Ад родных ніў". У сваёй аповесці "Споведзь" Ларыса Геніюш піша: "Чэхі стараліся выдаваць як мага сваю класіку, і мая гордая, чыстая, не халуйская ў гэты час жудасны кніжка была ім вельмі даспадобы! Казаў мне гэта чэскі цэнзар, нейкі ўкраінец Лявіцкі. Кнігу ўкладаў доктар Тумаш, мой завочны сябра й цудоўны крытык і вельмі строгі патрабавальнік мае паэзіі...".

Выданне факсіміле "Ад родных ніў" -- значная падзея ў беларускай літаратуры, а таксама добрая памяць пра нашу цудоўную зямлячку. Фундатарам выдання стала гарадзенская фірма "Альгерд". Дзякуй ёй за гэта! А тыя, хто хоча набыць першую кніжку Ларысы Геніюш, звяртайцеся ў Слонім да аўтара гэтых радкоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## СПОРТ

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. Спартсмены васьмі краін прынялі ўдзел у міжнародных спаборніцтвах мемарыяла Уладзіміра Дзьячкова. Ад Беларусі ў Маскву паехалі два атлеты. Алег Жукоўскі, як і ў мінулым годзе, заваяваў галоўны прыз у скачках у вышыню. "Серабро" ў скачках у даўжыню дасталася нашаму земляку Аляксандру Главацкаму.

ЛЫЖНАЕ ДВАЯБОР'Е. Летась беларускі спартсмен Сяргей Захаранка на этапах Кубка свету займаў месцы ў пятым дзесятку ўдзельнікаў. У сёлетнім сезоне ён у Славакіі фінішаваў ужо шостым, пасля ў Чэхіі -- дзесятым. Спецыялісты лічаць, што ў хуткім часе Захаранка можа скласці сур'ёзную канкурэнцыю мацнейшым дваяборцам свету.

КІК-БОКСІНГ. Цікавы міжнародны турнір прайшоў у Мінску. У фінале сустрэліся чэмпіён свету па аматарскаму кік-боксінгу украінец Віктар Ваўчанчын і беларус Раман Цікуноў. Галоўны прыз, пяць тысяч долараў, дастаўся чэмпіёну. Другое месца Цікунова -- бясспрэчны поспех мінчаніна ў гэтым новым відзе спорту.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 95. Падпісана да друку 29.1.1996 г.